ПАГОНЯ

Чацвер
11 траўня 2000 г.
№ 16 (463)
Кошт 70 рублёў

## Ад Перамогі засталася адная паказуха

**9 траўня па Гародні ездзілі танкі. Гэта называлася паказальным парадам баявой тэхнікі ў гонар Дня Перамогі.**

Асноўныя ўрачыстасьці для ветэранаў другой сусьветнай вайны прайшлі ля Кургану Славы, дзе адбыўся сьвяточны мітынг і канцэрт. Па прашпэкце Касманаўтаў праехаліся бэтээры і танкі. Гусеніцы і колы вайсковай тэхнікі былі схаваныя пад адмысловымі гумовымі чахламі, каб не праламіць і без таго ўшчэнт дабіты асфальт.

На сьвяточным мерапрыемстве прысутнічалі прадстаўнікі ўсіх навучальных установаў гораду. ГрДзУ, напрыклад, адпаведна пляну, мусіў прывесьці да Кургану па 50 чалавек ад кожнага факультэту.

А школьнікаў выстраілі жывой сьценкай уздоўж дарогі. Яны павінны былі махаць сьцяжкамі, паветранымі шарыкамі. Асаблівае замілаваньне выклікалі «ўнучаты Ільліча» - калёна піянэраў у чырвоных гальштуках.

Гарадзкія сьвяточныя мерапрыемствы скончыліся моладзевай дыскатэкай у цэнтры гораду і сьвяточным фэервэркам.

**Алеся Тарашкевіч**

## Людзі гінуць па віне міліцыянтаў

**Ужо тыдзень з вуснаў шчучынцаў не сыходзіць адна тэма - гібель маладой дзяўчыны ў аўтаавары (ПАГОНЯ паведамляла пра яе ў мінулым нумары ў артыкуле «Міліцыянт-забойца»). Аварыя адбылася ў ноч з 28 на 29 красавіка насупраць завода «Аўтапровад». За рулём машыны, якая збіла дзяўчыну, знаходзіўся, заraz ужо былы, старэйшы опер-упаўнаважаны, капітан міліцыі Баляслаў Вінча.**

Як паведамляла ПАГОНЯ, у мінулы аўторак крымінальная справа, распачатая шчучынскай пракуратурай, была перададзена ў Масты. А ў чацвер, улічваючы сур'ёзнасць справаў, яна апынулася ў Гарадзенскай абласной пракуратуры.

Як лічыць пракурор Шчучынскага раёна Генадзь Дыско, у аварыі вінаваты не толькі кіроўца. Дзяўчаты (нагадаем, яны былі ўчатырох) ішлі па праезнай часцы, што з'яўляецца «грубым парушэннем правілаў пешаходнага руху». У любым выпадку асноўная віна ляжыць на кіроўцы аўтамашыны. Яму, мяркуе спадар Дыско, пагражае да дзесяці гадоў пазбаўлення волі паводле артыкула 206 часткі 2 («Парушэнне правілаў бяспекі руху...»).

Шчучынскі пракурор сцвярджае, што ў машыне быў толькі кіроўца. Ці быў ён п'яны, экспертыза да 5 траўня яшчэ не ўстанавіла. На гэтым жа тыдні пракурор Гарадзенскай вобласці размаўляць з ПАГОНЯЙ не захацеў. Усе дадзеныя, маўляў, атрымаеце тады, калі скончыцца следства.

Падчас дэфіцыту аб'ектыўных дадзеных, на поўную сілу квітнеюць чуткі і байкі. Напрыклад, людзі кажуць, нібыта ў машыне было два чалавекі, і п'яныя яны былі настолькі, што ў дзверы не траплялі. Гэта, праўда, толькі чуткі. Мабыць, і перабольшаныя. Але, як бачым, ёсць з-за чаго...

Два гады таму па віне п'янага і знойжа былога капітана шчучынскай міліцыі Здановіча загінула дзяўчына і ледзве не застаўся калекам юнак. Здановіч атрымаў сем гадоў пазбаўлення волі, якія адбывае на пасяленні.

**Алеся Сідлярэвіч**




**12,13 траўня** - пераменная воблачнасць, без ападкаў, вецер паўночны. Тэмпература паветра 12 траўня - уначы -3...0, удзень +11...+16; 13 траўня - уначы -2...+1, удзень +15...+20.

# Гарадзенская Каралева Прыгажосці спраўдзіла сваю «іспанскую грусть»

**Восьмага траўня ў зале драмтэатра адбыўся фінал конкурсу Каралева Прыгажосці «Міс Гродна 2000». Каралевай стала навучэнка гарадзенскай школы нумар 21 Ганна Юрэвіч.**

Ганна ўдзельнічала ў конкурсе пад «нешчаслівым» нумарам 13. З гэтай нагоды прадзюсер шоу Ігар Ляговіч заўважыў, што 13-ы нумар перамагае ў конкурсе ўжо не ўпершыню і стаў для ўдзельніцаў гарантам перамогі.

Адзінаццаты па ліку гарадзенскі Конкурс прыгажосці доўжыўся ажно пяць гадзін - і ўвесь гэты час глядзельная зала аблдрамтэатра заставалася поўнай. Сапраўды, было весела, і дзейства трымала гледачоў у напрузе ўвесь час. Тым больш, што падчас шоу было падрыхтавана шмат забаваў, конкурсаў і прэзентацыяў. У фае ў антрактах праходзілі дэгустацыі, латарэі з прызамі, канцэрт жаночага ансамбля «Капрыз». Аднак самае цікавае ды інтрыгуючае відовішча было на сцэне. 16 прэтэндэнтак на карону прыгажосці зрабілі сем выхадаў: у вечаровых сукенках, у строях з калекцыі Вольгі Пяньковай «Вясналета 2000», у купальніках, дыскатэчных касцюмах, у шлюбных сукенках. Акрамя таго, дзяўчатам давялося прадэманстраваць вынаходлівасць і здольнасць падтрымліваць свецкую гутарку, а таксама танцаваць. Па выніках усіх выхадаў кампетэнтнае журы выстаўляла адзнакі. Дарэчы, сёлета склад журы быў даволі прадстаўнічым: упершыню на гарадзенскі Конкурс прыгажосці прыехалі намесніца дырэктара нацыянальнай школы прыгажосці Наталля Траян, дзі-джэй радыё Бі-Эй Клаус Мюллер, былі прэзэс бюро «Міс Палонія» Міхал Троцкі і сама Міс Палонія-99 Магда Квечэнь.

Пра тое, што журы нялёгка было прыйсці да адзінага меркавання, сведчыць тое, што даволі надоўга расцягнулася перапынкі паміж фіналам, грандфіналам і абвяшчэннем Каралевы.

У васьмёрку лепшых увайшлі школьніцы Юлія Ганчарук, Юлія Кулеш, Ганна Ракуць, Ганна Юрэвіч, студэнткі Алеся Ягоўцава, Таццяна Багаева і Юлія Крывенка, медсястра Наталля Вакульчык.

І тут распачалося самае цікавае. Па выніках галасавання гледачоў была вызначана «Міс Публікі» - ёю стала Юлія Крывенка. У якасці прыза Юлія атрымала кухонны камбайн ад Камітэта па справах моладзі. Аднак не менш пашчасціла пераможцы латарэі сярод гледачоў, якія ўгадалі «Міс Публікі». Шчаслівчык атрымаў шыкоўны прыз - пуцёўку ў Гішпанію. Аднак тытул «Міс Публікі» не быў адзіным для Юліі. Яна таксама стала «Міс Цэнтэр» і атрымала падарунак ад фірмы. Было яшчэ шмат розных тытулаў, заснаваных фірмамі-спонсарамі і арганізатарамі конкурса - усіх не пералічыш.



Ганна Юрэвіч вельмі хацела пабываць у Гішпаніі...

Аднак пяройдзем да кульмінацыі фіналу «Міс Гродна - 2000». Пасля невялікай замінкі, выкліканай, відаць, гарачымі эмоцыямі журы, Ігар Ляговіч назваў пераможцаў. Тытул «ІІ-ая віцэ-Міс» і музычны цэнтр ад ГА «Ратуша» атрымала Ганна Ракуць. Дзяўчына на працягу конкурсных іспытаў прадэманстравала абаяльнасць і гарманічнасць вобразу, натуральную прыгажосць. Акрамя гэтага, Ганна стала «Міс радыё Бі-Эй» і «Міс Прэстыж».

Тытул «І-ая віцэ-Міс» і тэлевізар «Віцязь» атрымала Наталля Вакульчык - паводле водгукаў спецыялістаў, вельмі перспектыўная мадэль. А Каралевай Прыгажосці «Міс Гродна-2000» стала Ганна Юрэвіч. Для аматараў дакладных лічбаў паведамляем - рост 174 сантыметры, аб'ёмы 85-60-90. Яна вельмі любіць пікнікі, сусветную мастацкую літаратуру, вывучае ангельскую мову і марыць з'ездзіць да бабулі ў Англію. На пытанне наконт прычынаў удзелу ў конкурсе Ганна адказала, што ёй «вельмі хацелася пабываць у Гішпаніі». І мара дзяўчыны спраўдзілася - галоўным прызам Каралеве Прыгажосці стала пуцёўка ў Гішпанію ад фірмы «Сакуб-Холідэй». Як запэўніла прысутных Наталля Траян, сёлета упершыню прадстаўніца Беларусі будзе прымаць удзел у Сусветным форуме прыгажосці «Міс Свету». А пераможцы тураў у абласных цэнтрах пройдуць кастынг на ўдзел у «Міс Беларусь».

**Алена Сіневіч**

## «Разбой» па-ваўкавыску

**Гарадзенская абласная пракуратура ўзбудзіла крымінальную справу па артыкулу 89, частка 2 Крымінальнага кодэкса Беларусі - «разбой».**

Гэтая гісторыя распачалася 21 сакавіка, калі ў Валкавыскае траўматалагічнае аддзяленне з траўмамі галавы паступіў дырэктар адной з мясцовых камерцыйных фірм. Ён заявіў, што напярэдадні двое невядомых, прымяніўшы фізічную сілу, пасадзілі яго ў машыну, вывезлі ў невядомае месца, збілі і забралі 3 тысячы долараў ЗША. Падчас папярэдняй праверкі гэтага факта наяўнасць у пацярпелага ўказанай сумы ўстаноўлена не было - гэта пацвярджалі і супярэчлівыя паказанні родных. У выніку Валкавыская міжраённая пракуратура ўзбудзіла крымінальную справу па факту нанясення дырэктару фірмы цялесных пашкоджанняў.

5 красавіка бізнесмен быў выкліканы ў мясцовы РАУС для правядзення следчых мерапрыемстваў, але ў аддзяленне міліцыі так і не прыйшоў. На наступны дзень, 6 красавіка, яго жонка заявіла ў праваахоўныя органы, што напярэдадні муж пайшоў з дому і не вярнуўся. Інфармацыя пра ягонае знікненне была накіравана ў Міністэрства ўнутраных спраў Беларусі, а абласная пракуратура ўзбудзіла новую крымінальную справу.

## Як на вайне

**На Гарадзеншчыне расце вытворчы траўматызм. З пачатку года ў выніку няшчасных выпадкаў на вытворчасці загінулі 8 і атрымалі цяжкія траўмы 28 чалавек. За мінулы год загінулі 26 чалавек і 76 былі траўмаваны.**

Самым цяжкім застаецца траўматызм у аграпрамысловым комплексе. Сёлета на прадпрыемствах і ў гаспадарках Мінсельгасхарча загінулі ўжо 4 чалавекі. Прычым адзін загінуў, а яшчэ трое цяжка траўмаваны падчас веснавых палявых работ. Асноўнымі прычынамі няшчасных выпадкаў з'яўляюцца нездавальняючая арганізацыя вытворчасці, халатныя адносіны службовых асоб да выканання абавязкаў на ахове працы, п'янства на вытворчасці.

За тры месяцы па матэрыялах дзяржаўных інспектараў працы 316 службовых асоб прыцягнуты да дысцыплінарнай, 283 - да адміністрацыйнай адказнасці.

**Ася Куніцкая**

## Рыбацкае шчасце плавае ў Нёмане

**Незвычайныя таямніцы жарсцяў па рыбалцы адкрыліся ў суботу падчас святкавання 5-годдзя гарадзенскага Клуба аматараў спінінгу і нахлыста. Свята прайшло на набярэжнай, што ля старога маста. Спадар Юркаўлянец, госць свята рыбалкі з Беластоку, падчас адкрыцця паведаміў, што «мы ловім рыбу не для мяса, а для задавальнення ад пачуцця ўдачы і азарту... Таксама і кабеты ж створаны не для таго, каб з імі жаніцца, а для таго, каб было чым захапляцца ў жыцці».**

Нарэшце нават непасвячоныя змаглі зразумець, што ж прымушае рыбакоў гадзінамі сядзець на беразе вадаёма ў чаканні добрай паклёўкі. Падчас святкавання дня рыбака былі арганізаваны спаборніцтвы па вязанні мух, лоўлі і нахлысту, дэманстрацыя спецыяльных перыядычных выданняў па рыбалоўству. Майстар-клас па вязанню мушак з барсуковай поўсці, пер'яў паўліна і пеўня проста артыстычна правёў спадар Юркаўлянец.

На святкаванні прысутнічалі госці з Літвы і Польшчы, менчукі, быў чэмпіён свету па спартыўнаму рыбалоўству Адам Секура, які пажадаў гарадзенскім рыбакам лавіць у Нёмане ласасёў і асятроў.

Кульмінацыяй свята стала вандроўка па Нёмане на цеплаходзе і спаборніцтва прафесіяналаў па рыбнай лоўлі.

**Алеся Макоўская**

# Беларусь «без дураков»?.. альбо Па слядах аднаго паслання

**Не так даўно даслаў Аляксандр Рыгоравіч пасланне сваім палатам. Я заўважыў: калі ён чытае сваё пасланне з паперкі, тады ўсё можна зразумець. Вы, відаць, не забыліся, кім рыхтуюцца тыя паперы? Былымі палкоўнікамі з іх палітінфарматарамі. Зразумела, здзерлі ўсё са старых КПБэўскіх дакладаў. Хіба ж мала іх у малафеевых засталося? Але як толькі Аляксандр Рыгоравіч адарвецца ад паперак і пачынае гаварыць «от себя», неяк няёмка робіцца за яго лагічнае мысленне. Як за таго Брэжнева з часоў «застою». І вось тое, што прамаўляў Аляксандр Рыгоравіч без паперкі, я запісаў і зрабіў тлумачэнні да ягоных цытатаў. Мяркуйце самі, што атрымалася.**

## Дакладчык пра палаты

Цытата Аляксандра Рыгоравіча: «У нас в палатах почти 100 процентов - специалисты сельского хозяйства...» Як жа гэта атрымалася? Сельская гаспадарка - самая адсталая галіна народнай гаспадаркі краіны. 2/3 калгасаў датуюцца, ды болей, болей... (Назвы гэтых калгасаў са старых анекдотаў не забыліся? Вось яны: «40 лет без урожая», «Красное дышло», «Серпом по...молоту» і гэтак далей). Няхай не крыўдуюць за такое параўнанне вяскоўцы-рабацягі. Бо гэта адносна тых, пра каго кажуць: «адзін з сошкай, а сямёра з ложкай». Можа, гэтыя «сямёра з ложкай» і сядзяць у тых палатах? Ці не ім «дзякуючы» наша краіна ператварылася ў адзіны велікамучаніцкі калгас пад назвай - «Радзіма». А хочацца так мала - калі не 100, то каб хоць 50 працэнтаў у палатах засядала юрыстаў, ды проста добрапрыстойных людзей.

## Дакладчык пра вытворчасць

Цытата Аляксандра Рыгоравіча: «Не будет производства - не будет и людей...» Вось як! А я, дурань, усё свядомае жыццё думаў наадварот - яна, вытворчасць, для нас, а не мы для яе. Хіба вытворчасць робіць людзей? А можа, калі, скажам, палічыць палавы акт вытворчасцю... Але ж гэта з нацяжкай, бо ва ўсе часіны такі акт называўся - каханнем. Вытворцам у гэтай справе хіба што можна лічыць пеўня. Праўда, ёсць «людзі», якія лічаць другіх «вінтикамі» ў іх «вытворчасці». (Памятаеце - «труд освобождает»?) Толькі гэта нелюдзі - дыктатары!

## Дакладчык аб планаванні

Цытата Аляксандра Рыгоравіча: «Планирование - это (магчыма - Л.П.) заглянуть вперёд с помощью цифр...» (?!) Па-мойму, гэта тое ж, што зазірнуць наперад з дапамогай літараў, самалёта альбо ракеты. Мо ўсё ж лепей так: «Планаванне - гэта магчымасць прагназавання будучага эканомікі з дапамогай розуму»; прычым, апошні павінен, як мінімум, «мецъ меца быць» - у таго, хто плануе, канешне. З другога боку, з лічбамі планаваць прасцей. Яны ж, у адрозненне ад розуму, заўсёды пад рукой. 80 гадоў заглядваем у будучыню з дапамогай лічбаў. І што маем?.. Лічбы, сямігодкі, пяцігодкі, месячнікі, дэкады... А дзе эканоміка? Эканоміка - гэта вам не камп'ютар з лічыльным праграмным забеспячэннем». Дарэчы, і там, калі патрэбныя вынікі, - вось гэтае «заглянуть вперёд» - трэба напрацаваць галавой, а не «цыфрамі».

## Дакладчык пра будучыя выбары

Цытата Аляксандра Рыгоравіча: «...И тогда народ поймёт - зачем менять шило на мыло...» Гэта пра маючыя адбыцца выбары. Зразумела, што «шыло» ў Аляксандра Рыгоравіча - гэта палатнікі, што зараз працуюць, ну а «мыло» - канешне, апазіцыя. Што хацеў сказаць гэтым Аляксандр Рыгоравіч? Прымаўка «мяняць шыла на мыла» адпавядае паняццю прыкладна аналагічнаму абмену. Не ў лепшы бок, дарэчы. Дык гэтае выказванне - камплімент апазіцыі ці абраза палатнікам? Пакольні кампліментаў апазіцыі Аляксандр Рыгоравіч не робіць ніколі («канструктыўная» не ў лік), значыцца, гэта абраза палатнікам. «Однозначно», як гаворыць «Жырык». І вось вам вынік майго ўраўнення. Апазіцыя - раўня палатнікам (адпаведна выказванню А.Лукашэнкі) у той час, як апазіцыя ў Аляксандра Рыгоравіча - «отребье», «мразь», «отморозки». Значыцца, паводле законаў матэматыкі ды ўраўнення - і палатнікі такія ж. Вось гэта ацэнка работы ў палатах!!! «Отребье», «мразь», «отморозки».

## Дакладчык пра навуку перамагаць

Цытата Аляксандра Рыгоравіча: «...Сразиться с ними (капіталістамі - Л.П.) по уму - и выиграть...» Цікава, «ум» будзем лічыць на кілаграмы ці ў іхніх фунтах? Здаецца мне, Аляксандр




Рыгоравіч меў на ўвазе «сразиться по их уму нашими дубинками». Калі так, то як іх вылавіць, праклятых? (Гэта ж не менская апазіцыя), яны ж сюды не едуць (апрача палякаў) ды і да сябе не пускаюць, «жульё» капіталістычнае. Як нам іх адсюль «достать по уму» - рады не дам. Зрэшты, дапамога нам у гэтым ужо чакаецца. Памятаеце, 300 тысяч расейскага «ума-килограмма» ўжо прадбачыцца на гарызонце. Малайчына, Аляксандр Рыгоравіч, упраліся з ядняннем, дык наце вам нас задарма. Мо, глядзіш, і ракеты з сабой прытараняць? Вось гэта «па уму»! Мала нам Чарнобыля?

## Дакладчык пра нашу жывучасць

Цытата Аляксандра Рыгоравіча: «...Мы всё равно выживем...» Вось табе і на! Усё ж хворыя, значыць, калі выжываць збіраемся. Яны, капіталісты, там у сябе ЖЫВУЦЬ, а мы павінны ВЫЖЫЦЬ? Пра якое «сражение по уму» тады ідзе гаворка вышэй? Памятаеце, у 1994 годзе ў нас з'явіўся прэзідэнт (не паслухалі Пазьняка) памяркоўных ды талентанных беларусаў? У 1996 годзе ён раптам ператварыўся ў прэзідэнта бедных беларусаў. (Цікава, слова ператварыўся - ад слова «тварь» альбо «тварыць»)? А ў 2000 годзе ў нас прэзідэнт «от себя» - «нищих» беларусаў. Што далей? Няўжо спраўдзіцца - «бедна, але нядоўга»? Не каркай!..

## Лірычнае адступленне пра мову

Нарэшце (заўважыў з паслання), Аляксандр Рыгоравіч вызначыўся з мовай. Ён стаў больш пісьменна размаўляць...па-руску(!?). На гэты конт я хацеў бы нагадаць Аляксандру Рыгоравічу «грынпісаўскага» ката. Памятаеце: той кот гаўкаў, калі злодзей спрабаваў абрабаваць ягонага гаспадара? Гэта разумна. Але ж ён так і застаўся катом, г.зн. ён працягваў мяўкаць. Бо колькі б ён ні гаўкаў, потым ані адзін сабака яго не пакахае! Таксама і ў людзей: як казалі ў маёй вёсцы пра таго, хто грэбуе сваёй мовай, - «беларуская свіння, а па-руску рые».

## Пра каханне ў страху

І вось, нарэшце, закончылася пасланне палатам. Пачаліся адказы на пытанні. Тут палатнікі сталі ёрзаць на сваіх месцах, баяцца тэлекамераў, нібыта вады ў рот панабіралі, вочы на выкаце. Ну, думаю, паўцякаюць. Глядзіце, якая метамарфоза. У Вярхоўным Савеце 12-га склікання дэпутаты вырывалі мікрафон адзін у аднаго. А тут - баязлівая цішыня. Потым знайшоўся адзін і пачаў лепятаць пра тое, што ў нейкай бабкі печка развальваецца, ці што? Аляксандр Рыгоравіч - «поможем». І тут падымаецца сакратар палаты па міжнародных адносінах. Ну, думаю, ён ужо ўсыпе «галаве» па самыя вяніки! Куды там! Пачаў заікліва гаварыць штосьці пра п'яніцаў. Каб самі за сябе плацілі... Божа, Божа! Дзяржаву прапілі, а тут?.. Потым гэты ж «пісьменнік», адыходзячы ад мікрафона, раптам у нямую цішыню шэптам: «Простите, что я так задержал ваше время». Вось і ўсё пасланне пасланцам. Аляксандр Рыгоравіч у адказ: «Я рад, что в этом зале появилась новая, здоровая аура». Пасля такога пасажу смяяцца і жартаваць мне зусім не хацелася. Чаго няма, з таго і смяяцца грэх.

## Заканчэнне

Слухаючы Аляксандра Рыгоравіча і яго палатнікаў, я ўсё ж зразумеў адно. Ім вельмі хацелася перарабіць адну рускую прымаўку: «в России две беды - дураки и дороги». Перарабіць на свой капыл, маўляў, «на Беларусі толькі адна бяда - дарогі». А мяне распірала - «а дурні, дурні дзе»?!! Беларусь «без дураков»?! І так захацелася пасланцу ўсіх гэтым пеонам сваё пасланне!.. Што я і раблю - «А не пайшлі б вы ўсе»...

З прывітаннем,
Л.А.Пушэнка

# У антыфашыстаў шукалі зброю

**Дзевятага траўня Гарадзенская філія Маладога Фронту ладзіла антыфашыстоўскі пікет,ля Кургану Славы. Хлопцы і дзяўчаты трымалі плякаты: «Кожнай фашысцкай гадзіне вісець на перакладзіне», «Раздавім фашысцкую гадзіну!» і «Сьмерць фашызму».**

Супрацоўнікамі міліцыі быў затрыманы актывіст Маладога Фронту Валеры Кісель. На падставе «высьвятленьня асобы» хлопца пасадзілі ў міліцэйскі рафік і абшукалі.

- Шукаем зброю, наркотыкі, - патлумачыў карэспандэнту ПАГОНІ нейкі падпалкоўнік, які адмовіўся прадставіцца.

Напэўна, супрацоўнікі ворганаў і былі расчараваныя, калі замест гранатаў і кулямётаў знайшлі толькі стос антыфашыстоўскіх улётак і транспарант «Фашызм, камунізм, таталітарызм - ня пройдзе!»

Тады Валерыю сказалі, што ў яго падробленыя дакументы. Хлопца завезьлі ў пастарунак, дзе зьявіліся новыя падставы для затрыманьня: маўляў, ён зьбіраўся арганізаваць дэманстрацыю.

Міліцыянты склалі пратакол аб адміністратыўным затрыманьні, канфіскавалі ўлёткі і транспарант. Спадара Кісяля адпусьцілі пасьля двухгадзіннага затрыманьня.

**Алеся Тарашкевіч**

# Рэжым манапалізуе Сьвята Перамогі над фашызмам

**8 траўня штогод народы ўсяго сьвету адзначаюць угодкі заканчэньня другой сусьветнай вайны ў Эўропе. На нашым кантыненьце гэтае сьвята так і называецца - Дзень Эўропы. Людзі ўшаноўваюць памяць палеглых у баях і загінуўшых падчас рэпрэсіяў і генацыду цэлых народаў у трагічныя 1939-1945 гады. Аддаюць даніну павагі змагарам войскаў антыгітлераўскай кааліцыі, якія выратавалі чалавецтва ад фашызму.**

Некалькі сябраў Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі - БНФ яшчэ ў красавіку сёлета падалі ў Менгарвыканкам заяўку на правядзеньне 8 траўня ўрачыстых мерапрыемстваў: мітынгу ў скверы Я.Купалы і потым ускладаньня вянкоў і кветак да абеліску на пляцы Перамогі ў Менску. Арганізатары і ўдзельнікі мерапрыемстваў меркавалі ўрачыста адзначыць 55-ю гадавіну Перамогі над фашызмам, далучыць і наш народ да Дня Эўропы, ушанаваць памяць ахвяраў барацьбы за вольную Беларусь. Яшчэ адной важнай ідэяй мерапрыемства была яго антываенная скіраванасьць. Плянавалася зьвярнуцца да людзей Беларусі і папярэдзіць пра небясьпеку выкарыстаньня незаконным рэжымам ўгодкаў Перамогі над фашызмам у злачынных палітычных мэтах, дзеля прапаганды мілітарызацыі Беларусі, дзеля прапагандысцкага апраўданьня разьмяшчэньня 300-тысячнага расейскага ваеннага легіёну на тэрыторыі краіны і пашырэньня антызаходняй істэрыі. Неабходна папярэдзіць нашых суайчыннікаў пра спробы кіраўнікоў новай расейскай імпэрыі ды яе мясцовых сатрапаў зноў падзяліць Эўропу і далучыць Беларусь да новага «савецкага лягеру», які супрацьстаіць цывілізаваным краінам Захаду.

Гарадзкая адміністрацыя, паслухмяна выконваючы загад незаконнага рэжыму, не дала магчымасьці правесьці мерапрыемствы. Рэжым у чарговы раз пацьвердзіў, што разгорнутая шуміха вакол «дыялогу» з апазыцыяй ёсьць толькі прапаганда. Нават на сьвятканьні рэжым увёў манаполію. Пасьлаць людзей адзначаць угодкі Перамогі над фашызмам на балота, месца выгулу сабак - ці гэта ня ёсьць зьнявага чалавечага гонару?

**Прэс-служба Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі - БНФ**

# «Маю права» пад наглядам намесніка старшыні

У Астраўцы на мінулым тыдні адбыўся пікет пад назвай «Маю права». Па дазвол на яго правядзеньне ў выканкам зьвярнулася шэсьць чалавек. Трэба заўважыць, што раней падобныя звароты ў выканкам сканчаліся забаронай акцый. Цяпер улады дазволілі пікет, праўда, не на пляцы Леніна, як гэтага прасілі людзі, а на гарадзкім стадыёне. На пікет сабралася каля дзесяці чалавек. Народ цікавіўся ў пікетоўшчыкаў у асноўным эканамічнымі і палітычнымі праблемамі краіны, вяліся дыскусіі. Намеснік старшыні выканкаму па грамадзка-палітычнай інфармацыі праседзела ўсю акцыю ў міліцэйскай машыне - назірала.

**Ул. інф.**

# Улада чыноўнікаў спяшаецца

**Выбары ў Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь. Здаецца, як далёка яшчэ да гэтага. Аднак у нас, у Гродне, выбарчая кампанія ўжо распачалася...**

27 красавіка адбылася чарговая сустрэча клуба «Удзельнікаў усіх войнаў і ветэранаў Узброеных Сіл». З восені сустрэчы клуба штомесяц праводзяцца ў Гарадзенскім Доме афіцэраў. Падчас сустрэчы, 27 красавіка, старшыня гарадскога савета ветэранаў Іван Іванавіч Абросімаў, карыстаючыся высокай трыбунай клуба, ужо абвясціў кандыдатаў у дэпутаты будучага Вярхоўнага Савета. Камуніст Абросімаў прыбыў на сустрэчу клуба ў суправаджэнні нейкай рыжай дамачкі. Ён заклікаў прысутных агітаваць народ галасаваць за палітработніка, што праваліўся на мінулых выбарах, - намесніка камандзіра брыгады па выхаваўчай рабоце Аляксандра Лабковіча - і камандзіра армейскага корпусу генерал-маёра Валерыя Фралова.

Вось і атрымліваецца, што пакуль працоўны люд дрэмле, слугі народа не спяць. Па вопыту Расеі, дзе ў Думу трапіў адзін працоўны Кандзібін - ды і той прыняты там за скамароха - уладу ў Беларусі таксама захопяць адныя чыноўнікі, якія жывуць не дзеля народа, а для сябе і ўзгадваюць пра народ толькі падчас выбараў.

Іх агітатар Іван Іванавіч ужо на трыбуне. Будзь пільным, народ! А то зазяваешся, і для тваіх кандыдатаў у дэпутаты месца не застанецца - чыноўнікі захопяць.

**А.Панцялееў,
удзельнік сустрэчы клуба удзельнікаў усіх войнаў і ветэранаў Узброеных Сіл**

# Назад, к дастатку... гумовых галёшаў?

**Як вядома, у якасці сярэднестратэгічнай перад эканомікай Беларусі была пастаўлена задача выйсці на паказчыкі 1990 года.**

Чаму, відаць, зразумела. Лічыцца, што ў гэтым годзе БССР, падчас знаходжання ў складзе СССР, дасягнула надзвычай значных поспехаў. Таму дасягненне «лепшага ў мінулым» было б самай пераканаўчай дэманстрацыяй канструктывізму ў палітыцы кіраўніцтва краіны.

Падзяляючы пункт гледжання, што ў адну раку нельга ўвайсці двойчы, узгадаем: што гэта былі за поспехі? У Менску, напрыклад, не было ніводнай сцяны, свабоднай ад «дадзыбао», з дапамогай якіх насельніцтва карэктавала размеркавальную дзейнасць Дзяржплана. З дапамогай аб'яваў ажыццяўляўся натуральны тавараабарот, але калі-нікалі абменьваліся так званымі запрашэннямі - выдадзенымі ў працоўных калектывах квіткамі на права набыцця халадзільніка ці тэлевізара. У гэтым не было нічога дзіўнага, таму што на кожны рубель, які мела насельніцтва, прыпадала на 11 капеек тавараў.

З улікам гэтага і трэба рабіць параўнанні. Бо сцвярджаць, што дзесяць гадоў таму на заробак можна было купіць болей тавараў, чым зараз - некарэктна. Калі гаворка не пра гандлёвых работнікаў ды іншых блізкіх да размеркавання асобаў. Бо, напрыклад, улетку 1990 года гумовыя галёшы былі адзіным відам абутку, які можна было набыць ва універмагу «Беларусь». Усё астатняе - «з-пад крыса, з-пад прылаўка», альбо на базе, прадпрыемстве, толькі не ў арганізаваным гандлі.

Што яшчэ? У 1990 годзе БССР выпрабляла трактароў болей за нейкую іншую краіну. Але тэхабсталяванне нашых калгасаў было на ніжэйшым, чым у заходніх фермераў, узроўні. Сцвярджалася, праўда, што нашы калгасы працуюць, як галандскія фермеры, але вытворчасць прадукцыі на аднаго работніка сельскай гаспадаркі была на шмат ніжэйшай, чым у Еўропе. Апрача таго, у вёсцы перыядычна працавалі ўсе - ад дактароў навук да прыбіральшчыцаў. Чаго, зразумела, не было ніздзе ў свеце.

Цікава, што яшчэ дзесяць гадоў таму, дасведчаныя эканамісты прыйшлі да высновы накont прынцыповай немагчымасці параўноўваць паказчыкі рынкавай і савецкай эканомікаў. Скажам, Мінстат сцвярджаў, што па росту ўнутранага валавога прадукта і прадукцыйнасці працы СССР нагогул апярэджваў ЗША. Але, напрыклад, для параўнання паказчыкаў прыборабудавання не было аналагаў, за выключэннем ртутных тэрмометраў. А пра савецкія мікракалькулятары можна было сказаць толькі адно: яны былі самымі буйнымі ў свеце. Альбо возьмем аўтамабілі. Можна параўноўваць адзінкамі, але параўнаць па якасці «Запарожац» з «Фордам» было б досыць некарэктна. Ці возьмем «спажывецкі кошык». У яго можна пакласці ўсё, што паводле «навукова абгрунтаваных нормаў» забяспечвае патрэбы чалавека ў бялках, тлушчах і вугляводах. Аднак, калі ў сярэднім еўрапейскім прадуктовым магазіне асартымент вымяраецца дзесяткамі тысячаў, то ў нашым - і ў лепшыя часіны ніколі не перавышаў дзвюх соцень. Але ж яшчэ Сальвадор Далі меркаваў, што калі ў краіне няма хаця б пяцідзесяці гатункаў сыру і добрага віна, значыць, краіна дайшла да ручкі.

Заставаліся, праўда, вайсковыя тэхналогіі і прадукцыя ВВК, якая часта альбо адпавядала сусветным аналагам, альбо нават перасягала іх. Але гэтая абставіна адлюстроўвае не столькі эфектыўнасць эканамічнага механізму, колькі ўцягнутасць СССР у суперніцтва звышдзяржаваў, і абумоўлена, зразумела, не столькі эфектыўным планаваннем і ўкараненнем навукова-тэхнічных распрацовак, колькі знешняй канкурэнцыяй. А што датычыць планавання, то вынікі дасягаліся пры надзвычай больших выдатках, чым у краінах, дзе вайсковыя дзяржзаказы размяркоўваліся паміж фірмамі на конкурснай аснове.

Але звернемся да нашых дзён. Адпаведна дадзеным Мінстата Беларусі, у мінулым годзе асобныя галіны прамысловасці перасягнулі валавыя паказчыкі 1990 года. Так, у чорнай металургіі аб'ём вытворчасці ў супараўнальных коштах склаў 138,1 працэнта да ўзроўня 1990 года, у машынабудаванні і металаапрацоўцы - 116,7 працэнта, у лясной, дрэваапрацоўчай і цэлюлозна-папяровай прамысловасці - 161,5 працэнта. Нават вытворчасць тавараў шырокага спажывання падвысілася на 4,5 працэнта ў параўнанні з базавым, як прынята казаць, годам. Лёгкая прамысловасць практычна выйшла на паказчыкі дзесяцігадовай даўніны, а харчовая прамысловасць перавысіла іх на 8,3 працэнта.

Зразумела, ёсць методыкі, паводле якіх праводзяцца карэктныя параўнанні вартасных паказчыкаў вырабу рознага кшталту тавараў. Тым не менш, узнікаюць пытанні. Напрыклад, адносна нарошчвання вытворчасці шырспажыву. Даходы нашы далёкія ад ўзроўню дзесяцігадовай даўніны, тавары не таннеюць, таму даводзіцца сябе абмяжоўваць. Значна скараціўся экспарт. З айчыннымі таварамі паспяхова канкуруюць імпартныя тавары шырокага спажывання, чаго не было дзесяць гадоў таму. На паліцах гастраномаў - скрозь расейскія каўбаса, малако, а апошнім часам - і курыныя яйкі. І пры гэтым уласная вытворчасць прадуктаў харчавання падвысілася амаль на 0,1. Якім чынам, калі сельгасвытворчасць скарацілася на палову, а яе таварнасць - і таго болей?

Што да машынабудавання і металаапрацоўкі, то аб'ёмы вытворчасці на прадпрыемствах-гігантах знізіліся катастрафічна. «Гомсельмаш» сабраў усяго 425 комбаўборачных камбайнаў - 4,5 працэнта ад выпуску 1990 года. МТЗ, МАЗ, станкабудаўнічыя заводы страцілі прыкладна 70 працэнтаў аб'ёмаў вытворчасці. Металарэжучых станкоў, напрыклад, выраблена 4,5 тысячы - у тры з нечым разы меней, чым у 1990 годзе; трактароў - 27,4 тысячы супраць 100,7 тысячы. Асваенне вытворчасці тралейбусаў, аўтобусаў ды іншай тэхнікі сур'ёзным чынам паўплываць на стан справаў не магло з-за абмежаванасці аб'ёмаў вытворчасці: калі трактары лічылі дзесяткамі тысячаў, то аўтобусы - сотнямі. У роўнай ступені вартасныя (валавыя) паказчыкі канверсійных прадпрыемстваў не магла палепшыць вытворчасць даволі прымітыўных пральных машынаў ды іншых бытавых прыбораў. А прадпрыемствы былой абаронnай прамысловасці ад беларускага войска ніякіх заказаў даўно не атрымлівалі. Да таго ж, знешнія партнёры, перш за ўсё Расея, ажно да апошняга часу ўсяляк эканомілі на вайскавых выдатках. Зразумела, што размяшчаць заказы на беларускіх прадпрыемствах гэтая краіна не магла. Прынамсі, не ў маштабах дзесяцігадовай даўніны.

Кажуць, што лічбы не хлусяць. А лічбамі можна маніць без цырымоніі. Але як толькі забастуюць рэчавыя альбо прадуктовыя рынкі, дык праўда, голая і непрывабная, вылазіць на паверхню.

Атрымліваецца, што няма ў магазінах ні айчынных цыгарэтаў, вытворчасць якіх нібыта рэзка павялічылася, ні галантарэйных тавараў, ні шмат чаго яшчэ. Наша прамысловасць проста не выраблeе прыстойных магнітафонаў, відэа- і аўдыёплэераў, і нават кухонная начынне. Калі меркаваць па асартыменту сталічных універмагаў, то відавочнае частковае вяртанне ў эпоху застою. У асноўным ёсць у наяўнасці рэчы двух фасонаў: дарагія і танныя. Яны маюць адну і тую ж «булыжную» расфарбоўку пры адчувальнай пераваге лічбаў у цэнніку над спажывецкімі ўласцівасцямі. А магазіны спажыўкааперацыі, калі меркаваць па асартыменту, вярнуліся не ў 90-ы, а ў 40-ыя гады.

Ды і пры застоі такія рэчы людзі не вельмі ж набывалі. Зразумела, што відавочныя вынікі пратэкцыянізму, але патрыятызм спажыўца не можа быць бязмежным, як не можа быць бяздонным ягоны кашалёк. Вырабляць кепскае і спажываць кепскае - у гэтым няма нічога ні новага, ні патрыятычнага, а затаварвацца цалкам мажліва. Канешне, пратэкцыянізм пашырае ўнутраны рынак для айчыннага тавараvытворцы і стымулюе рост вытворчасці. Але аднача- сова кансервуецца тэхналагічная адсталасць. Усё гэта мы перажылі ў мінулым, калі не вытрывалі канкурэнцыі і рухнулі, напрыклад, радыёэлектронная ды лёгкая прамысловасць. Таму важна ацэньваць не толькі сам факт росту вытворчасці, але і яе якасць.

А дасягненне якасці мажлівае толькі ў тым выпадку, калі ў эканоміку пойдуць інвестыцыі ці, што адно і тое ж, адбудзецца яе тэхналагічнае абнаўленне і тэхнічнае пераўзбраенне. Апошнім часам тут назіраўся абсалютны рэгрэс, а асноўныя фонды прамысловасці і сельскай гаспадаркі эксплуатаваліся на знос. Таму зараз ужо практычна немагчыма пабудаваць тэхналагічны ланцужок вытворчасці такім чынам, каб усе яго звёны маглі забяспечыць належную якасць вытворчасці. Прычым, найбольш зношанымі аказаліся самыя дарагія (самыя дакладныя) станкі і механізмы, без якіх нельга забяспечыць выкананне надзвычай тонкіх аперацыяў. А значыць, і паказчыкі 1990 года. Не кажучы ўжо аб тым, што і па вялікаму рахунку, размова вядзецца пра вяртанне к дастатку...гумовых галёшаў.

**Канстанцін Скуратовіч**




Чарка ды шкварка - вось і уся мінімалка

**Нязначнае павелічэнне мінімальнай заработнай платы звязана з абмежаванымі магчымасцямі дзяржаўнага бюджэту. Пра гэта паведаміла крыніца ў беларускім урадзе.**

Як вядома, с 1 мая мінімальная заработная плата павялічылася з 2.200 да 2.600 рублёў, ці на 18,2 працэнта, а тарыфная стаўка першага разраду - з 4.500 да 5.200 рублёў, ці на 15,6 працэнта. Між тым рост спажывецкіх цэн з пачатку года (папярэдняе павышэнне МЗП адбылося 1 студзеня) склаў прыкладна 40 працэнтаў. Раней рост мінімальнай зарплаты звычайна кампенсаваў рост цэн. Паводле слоў крыніцы, вакол цяперашняга павышэння МЗП у міністэрствах і ведамствах разгарэліся гарачыя дыскусіі. Менавіта таму да апошняга моманту не быў вядомы памер яе павелічэння.

Акрамя таго, пакуль так і не вырашана пытанне аб змяненні сістэмы аплаты працы ў бюджэтнай сферы, падаткаабкладання і іншых відаў плацяжоў, якое заключаецца ў адмове ад прывязкі да мінімальнай зарплаты. Пытанне аб гэтым было паднята ва ўрадзе яшчэ зімой.

**Дзмітрый Уласаў**

# Выпускная вечарына адразу трох школаў

**Пятага траўня ў дзіцяча-юнацкім цэнтры «Прамень» прэзентаваўся выпуск Школы маладога журналіста, Школы дэмакратычнага лідарства і Школы прававой адукацыі, што сёлета праходзілі ў межах праекту «Цэнтр моладзевай адукацыі».**

«Цэнтр моладзевай адукацыі» - задума, што ажыццяўляецца ў Гродне з лета 1999 года. Як даводзяць яе арганізатары - прадстаўнікі грамадскіх аб'яднанняў «ВІТ», «Трэці сектар» і «Рада-23», упершыню ў Беларусі дзякуючы намаганням трох некамерцыйных, недзяржаўных арганізацыяў лідзяць праект, які дае магчымасць моладзі атрымаць дадатковыя веды і навыкі, прыдатныя ў жыцці. Асновы права, асновы журналістыкі, дэмакратычнае лідарства - вось зместа бясплатнага навучальнага курсу ў школах.

Выпускную вечарыну вялі кіраўнікі праекту Вітаўт Руднік, Ігар Кузьмініч і Віталь Нікановіч. Бясспрэчнай ілюстрацыяй поспеху Цэнтру моладзевай адукацыі сталі публікацыі маладых журналістаў Вольгі Буевіч, Інгі Астроўскай, Дзмітрыя Ягорава, Алесі Сідлярэвіч і многіх іншых у газетах ПАГОНЯ, «Біржа інфармацыі», «Glos znad Niemna» ды інш. Сярод выкладчыкаў навучальных курсаў былі Ніна Палуцкая («Белорусская деловая газета»), Валерый Задаля («Народная Воля»), Вітальд Клаус (Польскае таварыства прававой адукацыі), прафесар Алесь Краўцэвіч ды іншыя. Усе выпускнікі атрымалі сертыфікаты аб заканчэнні доўгатэрміновай школы. Галоўнай мэтай праекту стала «павышэнне грамадскай актыўнасці і нацыянальнай свядомасці моладзі праз прадастаўленне ёй дадатковай адукацыі ў галіне журналістыкі, права і дэмакратычнага лідарства».

Удзячныя выпускнікі паказалі міні-канцэрт са сцэнкамі ды песнямі і падрыхтавалі шыкоўны салодкі стол.

За мінулы навучальны год у «Школе моладзевай адукацыі» навучаліся 168 чалавек. Як паказаў досвед, попыт на дадатковую адукацыю даволі вялікі.

**А.С.**

# «Дзесяць вякоў беларускай гісторыі» ў Гродне

**Нарэшце і гарадзенцы дачакаліся ў госці двух слаўных беларускіх гісторыкаў Уладзіміра Арлова ды Генадзя Сагановіча. У мінулую сераду яны прэзентавалі сваю новую супольную працу - «Дзесяць вякоў беларускай гісторыі» - у Гарадскім доме культуры, што па вуліцы Дзяржынскага. Рэй вёў гарадзенскі бард Віктар Шалкевіч.**

Кніга была выдадзена ў мінулым годзе ў Вільні. Амаль увесь яе наклад ужо разышоўся. У Гродна аўтары прывезлі апошнія асобнікі.

Сустрэчу з гісторыкамі арганізавалі ГА «Ратуша» ды гісторыка-культурны клуб «Паходня». Аўтары сустрэліся таксама з вучнямі шостага і сёмага класаў 32-й школы ды са студэнтамі сельгасінстытута.

Гісторыкі распавялі пра сябе, сваю працу і ўвогуле пра жыццё. Адказалі на разнастайныя пытанні прысутных.

«Пісьменнік з гістарычнай адукацыяй» Арлоў, як ён сам сябе называе, прачытаў свае вершы і прозу, а таксама зачытаў колькі трапных выразаў да цікавых сітуацыяў са свайго нататніка. Кшталту, у душы аднаго замежнага гатэлю надпіс толькі па-расейску: «выкарыстоўваць толькі як душ».

Сагановіч падзяліўся сваімі поглядамі на гісторыю. Дарэчы, нядаўна аўтар знакамітай «Невядомай вайны» знайшоў Дыярыюш Януша Радзівіла, які, магчыма, з цягам часу будзе выдадзены з яго каментарамі.

Нягледзячы на сучасную, далёка не аптымістычную, сітуацыю ў Беларусі, гісторыкі вераць, што Беларусь не знікне з мапы Еўропы, і праз дзесяць стагоддзяў з'явіцца кніга «Дваццаць стагоддзяў беларускай гісторыі».

Напрыканцы сустрэчы да аўтараў выстраіліся чэргі за аўтографамі. Яны ахвотна падпісвалі ўсе кніжкі, зычылі моладзі кахання ды незалежнасці. У выніку, праўда, ледзь не спазніліся на цягнік. Гарадзенцам вельмі спадабалася сустрэча. Спадзяемся, што менскім гасцям таксама. Тым больш, што Гродна, кажуць гісторыкі, заўсёды сустракаў іх гасцінна. На завяршэнне вечарыны Уладзімір Арлоў прапанаваў гарадзенцам свой новы тост-жарт: «За Расею ў яе этнаграфічных межах!»

**Алеся Сідлярэвіч**

# «Рэпарцёр» з пятлёй на шыі альбо Чаму ўлады горада Гродна не жадаюць даць згоды на размяшчэнне новай газеты?

Апошнім часам беларускія ўлады выкарыстоўваюць новы сродак барацьбы з незалежнай прэсай, якая пашырае свае межы, - не даюць сваю «згоду» на размяшчэнне на іх тэрыторыі газетаў грамадска-палітычнай скіраванасці. Такая практыка распачалася з сакавіка 1999 года, калі Пружанскі райвыканкам адмовіў ва «ўзгадненні» газеце «Голас Пружаны». Улады папросту палічылі немэтазгодным размяшчаць ў горадзе незалежную газету. Аднолькавы выпадак меў месца ў горадзе Пінску. Так, адмовілі газеце «Правінцыя» і зноў па надуманай падставе - маўляў, у раёне ўжо выходзяць сем перыядычных выданняў.

Гэтая практыка стала выкарыстоўвацца і ў іншых гарадах Беларусі. Так, у горадзе Оршы улады не дазволілі «нарадзіцца» газеце «Кутейна». І вось чарговая адмова - гарадзенскай газеце «Рэпарцёр».

Наўжо на самой справе нельга стварыць газету без «блаславення» мясцовай улады? Ці ўлады на месцах, як заусёды, перагінаюць палку?

***

Новая рэдакцыя закона аб друку, прынятая напрыканцы 1997 года, зрабіла больш жорсткімі патрабаванні да рэгістрацыі газетаў. Поруч з заявай аб рэгістрацыі артыкул 10 Закона аб друку абавязвае прадстаўляць у Дзяржкамітэт па друку шэраг іншых дакументаў, у тым ліку аб узгадненні размяшчэння дадзенага сродку масавай інфармацыі з адпаведнымі мясцовымі выканаўчымі і распарадчымі органамі.

Напачатку да гэтага патрабавання Дзяржкамітэт па друку і мясцовыя ўлады ставіліся як да звычайнай фармальнасці. Аднак па меры росту палітычнай актыўнасці насельніцтва і павелічэння колькасці незалежных перыядычных выданняў улады сталі змяняць свае адносіны да гэтага, шчыра кажучы, неправавога патрабавання. Яны ўбачылі ў ім «палачку-выручалачку», з дапамогай якой можна спыніць шэсце па краіне свабоднай прэсы. І, відаць, гэты «сродак» быў запушчаны ў ход. Ва ўсякім выпадку, мы назіраем таму пацвярджэнне.

Што можна сказаць з гэтай прычыны?

Перш за ўсё трэба прызнаць, што замацаванне ў Законе патрабавання аб «узгадненні» размяшчэння юрыдычнага адрасу газеты супярэчыць Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь і міжнародным абавязацельствам краіны ў галіне забеспячэння свабоды слова. Больш таго, яно не адпавядае артыкулу 3 таго ж Закона аб друку, які гарантуе грамадзянам Беларусі свабоду друку ды іншых СМІ, і абвяшчае іх права свабодна заснОўваць сродкі масавай інфармацыі, валодаць, карыстацца і распараджацца імі.

Прынцып свабоды слова ды інфармацыі замацаваны ў важнейшых міжнародных актах па правах чалавека: Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека 1948 года, Еўрапейскай канвенцыі правоў чалавека 1950 года, Міжнародным пакце аб грамадзянскіх і палітычных правах 1966 года, у шэрагу дакументаў АБСЕ, якія былі ратыфікаваныя Рэспублікай Беларусь.

Абмежаванне свабоды слова выклікае рэзкае асуджэнне міжнароднай супольнасці. А паводле нацыянальнага заканадаўства, гэта з'яўляецца адміністратыўным правапарушэннем (артыкул 172-1 КоАП), якое абумоўлівае штрафаванне вінаватых грамадзянаў - ад двух да пяці мінімальных заробкаў і службовых асобаў - ад 10 да 50 мінімальных заробкаў.

Патрабаванне аб «узгадненні» належыць расцэньваць як грубейшае пасягальніцтва на гарантаваную Канстытуцыяй свабоду слова, свабоду меркаванняў, перакананняў і іх свабоднае выказванне (арт.33) і правa на атрыманне і распаўсюджванне інфармацыі (арт.34). Замест адмены сённяшнія ўлады ўзвялі яго ў абсалют. Больш таго, некаторыя руплівыя чыноўнікі думаюць, што сваім «не пушчаць» яны робяць добрую справу.

Ці маюць рацыю гэтыя чыноўнікі? На маю думку, не, бо скажона вытлумачваюць закон.

Згодна з артыкулам 10 Закона, «узгадненне размяшчэння СМІ» прадугледжвае толькі засведчанне мясцовай уладай таго факту, што рэдакцыя будучай газеты знайшла для працы неабходнае памяшканне, якое адпавядае патрабаванням для працы і быту. Выканкам павінен толькі пацвердзіць гэтую абставіну і блаславіць газету ў добры шлях.

Але...мясцовай уладзе не нададзена права прымаць рашэнне наконт таго, быць газеце або не быць. Гэта права заснавальніка газеты і ягонай «каманды». Яны заснОўваюць газету, і ніхто не мае права чыніць ім перашкоды на гэтым шляху: няхай гэта асобны чыноўнік альбо дзяржаўны орган.

Між іншым, некаторыя кіраўнікі выканкамаў уявілі сабе, што на падведамаснай тэрыторыі яны вызначаюць лёс газетаў. Захочуць - дадуць «згоду» на іх размяшчэнне, а не захочуць - дык адмовяць. А вось гэта ўжо называецца самадурствам і злоўжываннем уладай, за гэта ў Законе прадугледжваецца адпаведная адказнасць (гл. арт. 166 Крымінальнага Кадэкса).

Аднак пакуль з-за неправамерных дзеянняў чыноўнікаў пакутуюць рэдактары газетаў. Ходзяць яны, бедакі, па кабінетах і выпрошваюць ва уладатрымальнікаў «згоду», а тыя, як скнары, не даюць дазволу і гоняць апошніх у шыю.

Смешна, крыўдна, сорамна. Бо прасіць і не трэба. Ёсць такое права ва ўсіх грамадзянаў - выпускаць сваю газету, у адзіночку альбо разам з іншымі. А ўлады павінны забяспечыць гэтае права і прадаставіць для работы прыдатнае памяшканне і спрыяльныя ўмовы (друкарню, паперу, распаўсюджванне газетаў, доступ да інфармацыі і павагу да журналісцкай прафесіі).

У выпадку з гарадзенскім «Рэпарцёрам» улады адгарадзіліся ад газеты прэзідэнцкім дэкрэтам N11 ад 16 сакавіка 1999 года «Аб упарадкаванні дзяржаўнай рэгістрацыі і ліквідацыі (спынення дзейнасці) суб'ектаў гаспадарання».

Але, спадары чыноўнікі, пачытайце ўважліва гэты самы дэкрэт! Размова ў ім вядзецца пра адмову ў дзяржаўнай рэгістрацыі. Вас гэтага рабіць не просяць. Вы павінны выдаць толькі «даведачку аб узгадненні», а рэгістраваць газету будзе Дзяржкамітэт па друку (праўда, зараз ён не займаецца дадзенай дзейнасцю да атрымання вышэйшага ўказу «зверху» - аўт.).

Далей - у дэкрэце гаворыцца пра рэгістрацыю суб'ектаў гаспадарання. Як вам вядома, газеты яшчэ не сталі гэтакімі (хаця адпаведна новаму Грамадзянскаму кодэксу, іх хочуць перaўтварыць у камерцыйныя і некамерцыйныя арганізацыі - аўт.).

І нарэшце, дэкрэт не ўстанаўлівае забарону на размяшчэнне ў адным будынку некалькіх арганізацыяў, калі яны займаюць асобнае памяшканне. Стала вядома, што ў будынку па вуліцы Будзёнага, 48а атрымалі прапіску каля 70 фірмаў і арганізацыяў. Не пускаюць прапісацца толькі «Рэпарцёра», які там ужо размяшчаецца.

Дазвольце спытаць: чаму такая няміласць да газеты? Чаму адным можна «прапісацца», а другім не? Нелагічна неяк атрымліваецца з гэтай самай «прапіскай». Калі паселяць, дык усіх на роўных умовах. У адваротным выпадку ствараецца уражанне, што мясцовыя ўлады дзеляць газеты на «любімчыкаў», якім даюць магчымасць займацца сваёй справай, і «пасынкаў», якім закрываюць доступ да прафесіі.

Хацелася б спадзявацца, што інцыдэнт з газетай «Рэпарцёр», які атрымаў сусветную вядомасць, мясцовыя ўлады вырашаць палюбоўна. Тым больш, што гэта знаходзіцца ў іх кампетэнцыі: трэба толькі выпісаць «даведачку» - і рэдакцыя зможа перадаць дакументы далей па інстанцыі - у Дзяржкамітэт па друку.

Так і хочацца сказаць услых: «Прадстаўнікі Гарадзенскай улады! Ну дайце вы гэтым настойлівым дзяўчатам і хлопцам з «Рэпарцёра» даведку аб узгадненні. Няхай яны паспрабуюць журналісцкі хлеб і даведаюцца, з чым яго ядуць - з маслам ці гарчыцай. Не чыніце ім перашкодаў! Няхай сабе плывуць па бясконцаму мору нашага грамадскага жыцця»!

З павагай,

**Міхаіл Пастухоў, кіраўнік Цэнтра прававой абароны СМІ пры ГА «Беларуская асацыяцыя журналістаў», доктар юрыдычных навук, прафесар, заслужаны юрыст Рэспублікі Беларусь**

# ПАГОНЯ атрымала чарговае папярэджанне ад Дзяржкамдруку

**Пятага траўня, якраз на свята бальшавіцкай «Праўды», старшыня Дзяржкамдруку Міхаіл Падгайны вынес чарговае папярэджанне ПАГОНІ**

На кепскай (тут у сэнсе - сухоннай, чыноўніцкай. - Заўвага рэд.) рускай мове старшыня беларускага камітэту абвесціў нам, што «Государственный комитет Республики Беларусь по печати, ознакомившись с объявлением Молодёжного Антифашистского Центра в газете ПАГОНЯ (№11 от 06.04.2000 г. и №12 от 13.04.2000 г.), установил, что данная публикация осуществлена в нарушение требований ч.9 ст.5 Закона Республики Беларусь «О печати и других средствах массовой информации», поскольку Молодёжный Антифашистский центр в управлении юстиции Гродненского облисполкома не зарегистрирован...»

Апошні факт і стаўся падставай папярэджання «о недопустимости нарушения ст.5 в части распространения информации от имени политических партий, профессиональных союзов или иных общественных оъединений, не прошедших в установленном порядке государственную регистрацию...»

Як бачым Міхаіл Падгайны чытае ПАГОНЮ ад коркі да коркі - бо як бы інакай як бы ён заўважыў абвестку, змешчаную пад рубрыкай «Бясплатныя прыватныя аб`явы»? А калі сур`ёзна, то гэта ўжо другое папярэджанне ПАГОНІ на працягу каляндарнага года. Адпаведна вертыкальным законам, ПАГОНЯ ў дадзеным выпадку можа быць ліквідаваная, што называецца, «без суда и следствия».

**Ул. інф.**

# «Зачыстка» вольнага слова

**Прэзідэнт Беларускай асацыяцыі журналістаў (БАЖ) Жана Літвіна лічыць, што бліжэйшым часам стасункі паміж уладамі Беларусі і незалежнымі СМІ абвастрацца. Паводле яе слоў, гэта звязана, найперш, з прызначанымі на восень 2000 года выбарамі ў парламент і жаданнем улады ўтрымаць пад сваім кантролем інфармацыйную прастору. Незалежная прэса застаецца, паводле слоў Жаны Літвіной, апошнім інструментам кантролю дзейнасці ўлады. І няхай яна не аказвае ключавога ўплыву на працэсы ў грамадстве, але застаецца жывой крыніцай інфармацыі, якая не падвяргаецца цэнзуры і фальсіфікацыі.**

Прэзідэнт БАЖ нагадала, што перад рэферэндумам 1995 года быў закрыты 8-ы незалежны канал тэлебачання, перад рэферэндумам 1996 года была на працягу 24 гадзін закрытая незалежная радыёстанцыя «101,2». Цяпер жа ў кулуарах улады падрыхтаваны папраўкі да Закона «Аб друку», з дапамогай якіх (праз некалькі месяцаў) стане значна прасцей распраўляцца з недзяржаўнай прэсай. Рэдакцыі СМІ прыраўнаваны да суб'ектаў гаспадарання і падпадаюць пад дзеянне дэкрэта прэзідэнта № 11 ад 1999 года «Аб упарадкаванні дзяржаўнай рэгістрацыі і ліквідацыі (спынення дзейнасці) суб'ектаў гаспадарання». У выніку газету можна будзе закрыць без судовых разбораў. Улады працягваюць актыўна выкарыстоўваць і звыклыя рычагі ўдушэння незалежных СМІ - вынясенне папярэджанняў, судовыя іскі, затрыманне і запужванне журналістаў, эканамічныя санкцыі - незалежныя і дзяржаўныя СМІ маюць выключна няроўныя эканамічныя ўмовы сваёй дзейнасці. Выкарыстоўваюцца розныя заканадаўча-бюракратычныя хітрасці. Напрыклад, з 1 красавіка 2000 года спынена рэгістрацыя СМІ і рэдакцый як юрыдычных асоб, а гэта патрабуе дадатковай рэгістрацыі ў выканкамах. «Для нашага грамадства найбольш трагічная адсутнасць магчымасці распаўсюджвання свабоднай інфармацыі электроннымі СМІ. І тут улады не дапусцяць ніякіх паслабленняў. Гэта яскрава паказала падрыхтоўка да так званага грамадскага дыялога. Улады маюць намер працягваць фарміраванне грамадскай думкі ў зададзеным вузкім накірунку, прыраўнаваўшы сродкі масавай інфармацыі да інструмента дзяржаўнай палітыкі, якая абслугоўвае інтарэсы правячай бюракратыі. Для ўлады недапушчальна, калі людзі на аснове свабоднай інфармацыі пачнуць думаць самастойна», - сказала Жана Літвіна.

**Генадзь Барбарыч**

# Як абраць дэлегата на ўсебеларускі з`езд

**Аргкамітэт Усебеларускага з'езда вызначыў парадак вылучэння дэлегатаў ад тэрыторый і арганізацый для ўдзелу ў працы форума.**

У прэс-рэлізе сакратарыяту з'езда адзначаецца, што ў мэтах забеспячэння шырокага доступу грамадскасці да абмеркавання будучыні беларускай дзяржавы прынята рашэнне аб тым, што для ўдзелу ў першай сесіі Усебеларускага з'езда жыхары кожнага раёна, горада і раёна ў горадзе маюць права вылучаць сваіх дэлегатаў на сходах. Прычым, колькасць прадстаўнікоў ад кожнай адміністрацыйнай адзінкі залежыць ад колькасці выбаршчыкаў, якія жывуць на яе тэрыторыі. Норма прадстаўніцтва - 1 дэлегат ад 10 тысяч выбаршчыкаў. Каб забяспечыць належныя ўмовы вылучэння дэлегатаў, месца, дата і час правядзення сходаў павінны абавязкова ўзгадняцца з аргкамітэтам з'езду. Тыя арганізацыі, гаворыцца ў прэсрэлізе, якія зарэгістраваліся ў аргкамітэце, маюць права вылучаць дэлегатаў, зыходзячы з наступных квот: рэспубліканскія грамадскія арганізацыі, палітычныя партыі, прафесійныя і творчыя саюзы, нацыянальныя зямляцтвы - аднаго дэлегата ад кіруючага органа і яшчэ па аднаму - ад кожнай сваёй абласной структуры. Абласныя, гарадскія і раённыя грамадскія арганізацыі таксама маюць права вылучыць па Усебеларускі з'езд па аднаму дэлегату. У дакуменце падкрэсліваецца, што пратаколы сходаў па вылучэнні дэлегатаў павінны быць прадстаўлены ў сакратарыят аргкамітэта да пачатку чэрвеня бягучага года. Апрача таго, дэлегатамі з'езду таксама могуць стаць дэпутаты Вярхоўнага Савета Беларусі 13-га склікання, калі яны зарэгіструюцца ў сакратарыяце аргкамітэта не пазней, чым за два тыдні да пачатку працы з'езда.

Больш падрабязныя тлумачэнні па працэсу вылучэння дэлегатаў можна атрымаць у сакратарыяце аргкамітэта Усебеларускага з'езда па тэлефону (017) 223-65-29.

**Марат Гаравы**

# Снарад Другой Сусветнай вайны

Каля вёскі Навасёлкі калгаса «Світанак» Ашмянскага раёна мясцовыя жыхары ў полі знайшлі цэлы снарад часоў Другой Сусветнай вайны. Знаходку абясшкодзілі і зьліквідавалі сапёры. Можна толькі ўявіць, якая гэта была вайна, калі праз 55 гадоў у нашай зямлі яшчэ ўсё знаходзяцца снарады.

**Ул. інф.**

# «Ліцьвіны» наведалі Радзівілаў

**15 красавіка прадстаўнікі Ваўкавыскай моладзевай ініцыятывы «Ліцьвіны» і навучэнцы Ваўкавыскага педагагічнага вучылішча, якія цікавяцца краязнаўствам, ажыццявілі цікавае падарожжа па «залатым коле» Беларусі: Нясвіж-Мір-Навагрудак. Вандроўка гэтая сталася магчымай дзякуючы дапамозе Ваўкавыскай рэгіянальнай арганізацыі ТБМ імя Францыска Скарыны і грамадскага аб'яднання «Аслона». Яе мэтай было пазнаёміць маладых краязнаўцаў з багатай гістарычнай спадчынай Беларусі, а таксама заахвоціць да сумеснай працы па вывучэнню культуры роднага краю.**

Спачатку ўдзельнікі вандроўкі наведалі першую сталіцу Вялікага княства Літоўскага - Навагрудак. Шмат разнастайнай і цікавай інфармацыі можна было пачуць з вуснаў экскурсавода мясцовага краязнаўчага музея. Асабліва карыснымі для маладых краязнаўцаў сталіся практычныя парады па збору матэрыялаў і стварэнню краязнаўчага музея.

Потым падарожнікі наведалі музей Адама Міцкевіча, рэшткі палаца Міндоўга, Фарнага касцёла, здзейснілі экскурсію па гораду, наведалі Мірскі абарончы замак. Цікавы аповед экскурсавода дазволіў перанесціся на нейкі час у эпоху Сярэднявечча. Адразу ўявіліся магутныя рыцары, якія ўздымаюцца ў цяжкіх латах па высокіх прыступках на вежу. Прыемна, што Мірскі замак адбудоўваецца і кранае наведвальнікаў сваёй веліччу і прыгажосцю.

На жаль, апошнія словы нельга сказаць пра палац «некаранаваных каралёў» Рэчы Паспалітай Радзівілаў у Нясвіжы. Станавілася сумна і балюча ад выгляду ягоных пашарпаных сценаў, а звесткі пра тое, што захавалася толькі два працэнты Радзівілаўскага багацця, увогуле выклікалі пачуццё сораму перад нашымі славутымі продкамі. І якой павагі мы чакаем ад іншых народаў, калі не здолелі захаваць гэтую скарбніцу Радзівілаў, калі нават сёння няма змогі (а мо жадання?) адбудаваць палац, надаць яму былую веліч?..

Вярталіся дамоў стомленыя, а ў галовах - самыя супярэчлівыя думкі. Адно пэўна, што гэта ад нас, сённяшняй моладзі, ад нашага жадання, нашых намаганняў залежыць будучыня і палаца Радзівілаў, і Мірскага замка, і ўсёй нашай Радзімы.

**Алена Канапелька, настаўніца**



# Заява сакратарыята ТБМ аб дыскрымінацыі беларускай мовы ў войску

**10 гадоў мінула з моманту прыняцця Закона аб мовах. Рэспубліка Беларусь стала незалежнай дзяржавай, але беларуская мова цалкам ігнаруецца ў беларускім войску. Вайсковая прысяга на вернасць Радзіме прымаецца навабранцамі на мове суседняй дзяржавы. У беларускім войску адсутнічаюць статуты на роднай мове. Вайсковая падрыхтоўка і ўся выхаваўчая праца вядзецца выключна па-руску, у беларускім войску не гучыць беларуская вайсковая песня. Адзіная вайсковая газета «Во славу Родины» таксама рускамоўная. Паколькі большасць нашых хлопцаў набіраецца ў войска з невялікіх гарадоў і вёсак, дзе ў паўсядзённым жыцці дамінуе беларуская мова, лічым непрымальным стан рэчаў, калі падчас вайсковай службы яны падвяргаюцца дыскрымінацыі па моўнай прыкмеце.**

У сувязі з гэтым Таварыства беларускай мовы патрабуе ад Урада Рэспублікі Беларусь зрабіць наступнае:

- Стварыць у кожнай вайсковай часці беларускамоўныя батальёны, для кіравання імі падабраць афіцэраў, якія валодаюць беларускай мовай у аб'ёме, неабходным для правядзення выхаваўчай працы і вайсковай падрыхтоўкі.
- Перакласці на беларускую мову вайсковыя статуты.
- Забяспечыць усе вайсковыя часці тэкстам прысягі на беларускай мове, і ўрачыстасці з нагоды прыняцця навабранцамі прысягі на вернасць Радзіме праводзіць на мове тытульнай нацыі нашай краіны.
- Узнавіць курсы беларускай мовы для афіцэрскага складу.
- Надаць газеце «Во славу Родины» статус дзвюхмоўнай і прадугледзець, каб не менш за 50 працэнтаў матэрыялаў друкавалася па-беларуску.

**Сакратарыят ТБМ**
**г.Менск**
**4 траўня 2000 года**

**Па гарызанталі:** 7.Поўная параза праціўніка. 8.Поўны антыпод негра. 10.Самае небяспечнае месяца. Большасць людзей памірае ў ім. 11.У кепкі ён ёсць, а ў вушанкі няма. 12.Птушка, якая прылятае да нас на зіму. 14.Рыцарскі даспех. 16.Ювелірныя карункі. 17.Шум, скандал. 19.Алей з насення клешчавіны. 20.Народ у Кітаі. 24.Высакагорная паша на Цянь-Шані. 25.Супадзенне думак. 26.Беларускі паэт. 30.Збан з вузкім горлам. 31.Іначай гэтую рыбу называюць сырок. 32.Труп жывёліны. 33.Самая дарагая раскоша, якую можа дазволіць сабе толькі вельмі багаты чалавек. 34.Раённы цэнтр у Берасцейскай вобласці.

**Па вертыкалі:** 1. «Горад будучага» з рамана Аляксея Карпюка. 2.Турботы (уст.). 3.Куды.., туды і нітка. 4.Вялікі зуб у дзіка. 5.Вайсковая пасада ў Вялікім княстве Літоўскім. 6.Род, сям'я. 9.Кітайскае парусное судна. 13.Горная парода. 15.Ізаляцыя парушальніка. 17.Без чаго не зрабіць вінегрэт? 18.Крыніца ведаў, не заўсёды карысных. 21.Аднагадовая кармавая бабовая трава. 22.Аповесць Васіля Быкава. 23.Дураслівасць. 27.Жывёліна ва ўзросце двух гадоў. 28.Точаны фігурны слупок у агароджы тэрасы. 29.Вяроўка, «на якую можа сесці» гімнаст. 32.Любімая вадкасць бравага салдата Швейка.



### Адказы на крыжаванку, змешчаную ў N15

**Па гарызанталі:** 7.Аўрамчык. 8.Зладзюга. 10.Трыер. 11.Анафема. 12.Бізнес. 14.Экстаз. 16.Фланк. 17.Гонг. 19.Дзёран. 20.Аздоба. 24.Берн. 25.Немач. 26.Ахапак. 30.Вясляр. 31.Адамчык. 32.Ранет. 33.Украінка. 34.Клубніцы.

**Па вертыкалі:** 1.Еўгеніка. 2.Эмблема. 3.Дыктант. 4.Алюр. 5.Ідылія. 6.Угнаенне. 9.Жывёла. 13.Янцзы. 15.Тузін. 17.Губка. 18.Завея. 21.Семянянка. 22.Раенне. 23.Патыліца. 27.Хвароба. 28.Зяблік. 29.Наталя. 32.Рака.

# Кашалёк ці жыццё?!

**Для адных людзей грошы - гэта свабода і ўпэўненасць у заўтрашнім дні. Іншыя не надаюць фінансавым праблемам асаблівага значэння. А якую ролю адыгрываюць грошы ў Вашым жыцці?**

**1. У магазіне з Вамі былі надзвычай ветлівымі і далікатнымі прадаўцы. Ці купіце Вы болей, чым хацелі?**

а) Канешне, няўжо тут можна адмовіцца? - 1 бал; б) Не, але парэкамендую магазін знаёмым - 3; в) Толькі калі патраплю на тое, што мне сапраўды патрэбна - 2.

**2. Ваш партнёр прапанаваў Вам адкрыць агульны рахунак. Як Вы да гэтага паставіцеся?**

а) Ні ў якім разе! - 3 балы; б) Абавязкова ўзважу ўсе «за» і «супраць»- 2; в) Чаму не?! - 1.

**3. Ці можаце Вы забыцца на важныя справы і пайсці на прагулку?**

а) Так, з задавальненнем! - 2 балы; б) Гэта калі-нікалі здараецца - 1; в) Не, я ж чалавек адказны - 3.

**4. Вас запрасілі ў рэстаран. Хутка праміне ўў час. Трэба расплочвацца, а Ваш спадарожнік (альбо тая, што Вас запрасіла) заўважае, што грошай не хапае. Вашы дзеянні ў такой сітуацыі?**

а) У раздражнёным стане заплачу сваю долю рахунку - 2 балы; б) З усмешкай заплачу ўсё сам(-а) - 1; в) Адчую сябе няёмка і, відаць, пайду з рэстарана адзін(адна) - 3.

**5. Якая з пералічаных ніжэй парод сабакаў Вам падабаецца?**

а) Дог - 3 балы; б) шпіц - 2; такса - 1.

**6. Надышоў час запаўняць падатковую дэкларацыю. Хто гэтым зоймецца?**

а) Я сам(-а), канешне - 2 балы; б) Мой партнёр - 1; в) Кансультант па падатковых пытаннях - 3.

**7. Генеральная ўборка з'яўляецца для Вас...**

а) Стомным абавязкам - 3 балы; б) Цудоўнай магчымасцю пазбавіцца ад барахла - 2; в) Паняццем, якое для мяне нічога не азначае - 1.

**Падвядзем вынікі**

Падсумуйце, колькі балаў у выніку Вы атрымалі.

**Ад 7 да 11 балаў.** Вы не надаяце грошам сур'ёзнага значэння. Сёння ёсць, заўтра няма - Вам усё роўна. Але не зважаючы на ўсю Вашу летуценнасць і легкадумнасць, усё ж паклапаціцеся пра тое, каб мець сталы даход. Без грошай жа - анікуды!

**Ад 12 да 16 балаў.** Вы, відаць, часцяком адкладаеце нейкія грошы на чорны дзень. Аднак Вы не скнара. Бо Вам падабаецца не толькі назапашваць, але і калі-нікалі рабіць закупы, якія абыходзяцца Вам досыць дорага.

**Ад 17 да 21 бала.** Здаецца, для Вас у жыцці няма нічога важней за фінансавую незалежнасць і магчымасць у любы момант набыць тое, што жадаеце. Ад гэтага Вы адчуваеце сябе надзвычай задаволеным(-ай). Вам можна пазайздросціць. Але не забывайцеся: шчасце - гэта не толькі наяўнасць грошай.

 

# Гараскоп

 

♈ **Баран (21.03-20.04).** Вашыя намаганні прынясуць імгненныя вынікі. Не варта спрачацца са сваякамі.

♉ **Бык (21.04-20.05).** Часцей бывайце дома ўвечары, калі не жадаеце непрыемнасцяў. Сябры крыху адпачнуць.

♊ **Блізняты (21.05-21.06).** З Вамі адбываецца нешта неверагоднае. Не губляйце галаву!

♋ **Рак (22.06-22.07).** Вашыя нядобразычліўцы не спяць, таму паспрабуйце неяк разагнаць хмары.

♌ **Леў (23.07-23.08).** Настроенасць на працу дапаможа Вам перажыць чарговае расчараванне ў каханні.

♍ **Панна (24.08-23.09).** Непрыемнасці апошняга тыдня, мабыць, скончыліся. У Вашым жыцці ўсталюецца адносны спакой і парадак.

♎ **Шалі (24.09-23.10).** Некаторыя непрыемнасці на працы адыдуць на апошні план. Затое з'явіцца вялікі шанец сустрэць новае каханне.

♏ **Скарпіён (24.10-22.11).** Хутчэй за ўсё, хвароба некага са сваякоў вымусіць Вас адкласці ўсе свае планы. Праца зараз не галоўнае.

♐ **Стралец (23.11-21.12).** Вы самі часам не ведаеце, чаго жадаеце. Мо варта разабрацца ў сваіх думках?

♑ **Казярог (22.12-20.01).** Зрабіце падарунак сабе і сваім родным. Пра пачуцці не думайце - навошта загадзя турбавацца!?

♒ **Вадалей (21.01-19.02).** Вам пашчасціць! Непрыемнасці, нарэшце, пакінуць Вас. Звярніцеся па дапамогу да сяброў.

♓ **Рыбы (20.02-20.03).** Рызыкуйце! Зоркі раяць Вам звярнуць ўвагу на сваю каханую (свайго каханага). Мо патрэбна Вашая дапамога ці парада?

# Сто лят, Апанас Пятровіч!

**Днямі спаўняецца 90 гадоў знакамітаму гарадзенскаму краязнаўцу і фальклярысту, заслужанаму настаўніку Беларусі Апанасу Цыхуну. У свой час гэты няўрымслівы чалавек вучыўся ў польскай настаўніцкай семінарыі, удзельнічаў у Вялікай Айчыннай вайне. Скончыў Гарадзенскі дзяржаўны педагагічны інстытут. Усё жыццё працаваў у сельскіх школах, інспектарам раённага аддзела народнай асветы.**

А яшчэ Апанас Пятровіч вядомы як аўтар шматлікіх газетных і часопісных артыкулаў на тэмы міжнацыянальных адносінаў, даследчык гістарычных каранёў татараў, яўрэяў, літоўцаў Гарадзеншчыны, паходжання назваў населеных пунктаў краю. Яго пяру належыць краязнаўча-біяграфічны ілюстраваны нарыс «Акадэмік з вёскі Лаша», прысвечаны жыццю і дзейнасці ўраджэнца Панямоння Яўхіма Фёдаравіча Карскага, аўтара капітальнай трохтомнай працы «Беларусы».

Юбілейны для сябе год Апанас Цыхун распачаў выданнем чарговай уласнай кнігі «Песні з народных глыбіняў». Тут сабраны беларускія народныя песні, пачутыя фальклярыстам у вёсках Гарадзенскага раёна. Першы запіс зроблены 20 траўня 1961 года. З нагоды 90-гадовага юбілею Апанаса Пятровіча ў Гродне запланаваныя ўрачыстасці. Рыхтуецца да друку чарговы зборнік вершаў ветэрана.

**Раман Ланьскі**

ПАГОНЯ
Заснавальнік: культурна-асветніцкі фонд "Бацькаўшчына"

Адрас рэдакцыі:
230025, г. Гродна, вул. К. Маркса, 11.
Тэл.72-37-14, 72-35-61, факс 72-29-96.
E-mail: pagonia@irex.minsk.by
Падпісны індэкс: 63124.

Рэгістрацыйны нумар 597. Нумар газеты надрукаваны ў Гарадзенскай абласной узбуйненай друкарні. Адрас: 230023, г.Гродна, вул. Паліграфістаў, 4.
Зак. 1563. Тыр. 7281
Нумар падпісаны да друку ў 16.00 10.05.2000 г.

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць асабістую адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў, іх меркаванні не абавязкова адлюстроўваюць пагляд рэдакцыі. Якасць друку адпавядае прадастаўленым рэдакцыяй дыяпазітывам.

Галоўны рэдактар Мікола Маркевіч

Камп'ютарны набор: Аксана Бурдзюк, камп'ютарная вёрстка: Аляксей Салей